# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1655) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 31 СТУДЗЕНЯ 1988 г. ЦАНА 12 зл.

Да 150-годдзя з дня нараджэння

## СВЯТЫЯ ЖЫЛІ СЯРОД НАС

Сто пяцьдзесят гадоў у нашым баку Еўропы таксама бывае нямала. Мы, беларусы, думаючы сёння пра так круглую дату, сардэчна ўспамінаем Кастуся Каліноўскага. Апостал нашага народа нарадзіўся ў перадграмнічную сярэдзіну зімы, 2 лютага 1838 года ў Мастаўлянах, што за Гарадком, у Беластоцкім цяпер краі.

Была тады Расійская імперыя тут, жорсткія мікалаеўскія часы. Пан мог для фанабэрыі забіць мужыка. Як заманулася цівуну, дык і ў святую нядзельку хадзілі продкі на паншчыну. Стройных хлапцоў гналі ў салдаты — практычна — на ўсё жыццё. Прыгожая дзеўка ў курнай хаце — гэта бяда і гора: або падпанкам на распусту вадзілі яе, або тапілася яна ў рэчцы. Сялянскі люд лічыўся быдлам, якое разумее чалавечую мову. Курам на смех было гаварыць пра зямлю і волю для яго; за адну нясмелую скаргу забіралі гайдукі ў стайню, дзе секлі бізунамі да паўсмерці. Здаралася, халоп нават супраціўся ў ліхую гадзіну, але, у такім выпадку, ён лепей зрабіў для сябе і для сваёй радзіны, калі сам паспеў дабегчы да сухое галіны ды павесіцца на ёй. Жаніцца дазвалялі не ксёндз ды бацечка, толькі пан менавіта, да якога і везлі маладзіцу ў пасцель на першую ноч пасля шлюбу...

Байкі гэта дзеля страху дзецям ды ўнукам пад канец веку атаму і электронікі? Яны рассмяюцца. Ад неверагоднасці. Тыя, што заплакалі б, прадзеды, даўно ўжо ў магіле. Гісторыя заўсёды іранічная: колішнія слёзы выклікаюць рогат (на гэтым трымаецца літаратурны Сатырыкон). Мы смяемся, але і з нас будуць смяяцца.

Паншчына прапала не са з'яўленнем на белы свет Кастуся Каліноўскага. Ліквідаваў яе, аднак, цар, іншы, Аляксандр II. Калі жыццё Каліноўскага абарвалася на пачатку дваццаць сёмага года ад нараджэння. Што адбылося з гэтым шляхецкім сынам? За якія гэта словы ды ўчынкі віленскі генерал-губернатар Мураўёў-Вешальнік паслаў яго на шыбеніцу?

Кастусь Каліноўскі арганізаваў паўстанне рабоў, пан выступіў супроць улады паноў! За такое ў рымскую эру распіналі на крыжы... Сапраўды цяжка ўявіць нялюдскую дзікасць феадальных рэаліяў, змагацца з якімі даваў рады той, у каго была маральная чысціня ды няўзломны характар. Каліноўскі, выпускнік імператарскага ўніверсітэта з дыпломам юрыста, не меў асабістай патрэбы быць у апазіцыі за лепшую долю сабе. Адвакаты не жывуць бедна.



М. Купава. Напачатку Кастусь Каліноўскі, лінарыт, 1977 г.

Рыма-католік і паляк па-свойму выхаванню, ён пачуўся беларусам. Гэтага не зразумеў ніхто, акрамя жменькі яго ных сяброў, гэтак жа *„хворых на сумленнасць і справядлівасць"*. Польская мова і культура падпалі пад праслед толькі пасля Студзеньскага паўстання. Панскае слова не было беларускім, зацкаваным у хаты, — вось і адказ на нацыянальнае самавызначэнне Кастуся Каліноўскага. Барацьба Расіі з Польшчай была барацьбою рускага панства з польскім панствам, а халопам не было ад гэтага аніякай карысці. Мужыку, каб зрабіцца чалавекам, трэба было Беларусі — без барскай Расіі над ёю ды загледжанага ў даўнюю Польшчу шляхціца, які душыў беларускую вёску і дыпламатычна балявў з расійскімі афіцэрамі гарнізона.

Можа нехта сказаць: утопія Кастуся Каліноўскага! Што зва-

(Працяг на стар. 4)



Зімовы пейзаж. Фота Я. Целушэцкага.

## BELARUSICA

Kastory Bożena, Weź promień światłą... (Instytut Elektroniki Białoruskiej Akademii Nauk), Reaktor na szybkich neutronach (Instytut Energetyki Jądrowej w Mińsku), korespondencja z Mińska, *Życie Warszawy* 1985, nr 168, 173, s. 5.

Kastory Bożena, Dlaczego im się chce? Notatki z Białorusi, *Życie Warszawy* 1985, nr 170, s. 5.

Kastory Bożena, Zwierciadło bazyliszka (Instytut Fizyki w Mińsku), Notatki białoruskie, *Życie Warszawy* 1985, nr 184, s. 5.

Katalog biełorusskich izdanij kiriłłowskogo szrifta XVI—XVII ww., wyp. 1—2, Leningrad 1973. Rec. Bułhak Henryk, *Rocznik Biblioteki Narodowej* t. 12/13, 1976/1977, s. 415—420.

Kawalenka Wiktor, Muszyński Michał, Jaśkiewicz Aleksander. Drogi rozwoju współczesnej prozy białoruskiej, fragm. książki, tł. z białor. Anna Sobecka, *Nadodrze* 1975, nr 8, s. 9—10.

Kennedy Grimsted Patricia: Archives and manuscript repositories in the USRR, Estonia, Latvia, Lithauania and Belorussia, Princenton 1981. Rec. Borawska Teresa, *Zapiski historyczne* 1985, z. 4, s. 151—154.

Kiestenis-Studzińska Barbara, Wystawa „Sztuka ludowa Białostocczyzny" w Grodnie, *Rocznik Białostocki* t. 9, 1968/69, s. 498—499, il.

Kiestenis-Studzińska Barbara, Wystawa „Twórczość ludowa Grodzieńszczyzny (BSRR)" w Białymstoku, *Rocznik Białostocki* t. 9, 1968/1969, s. 499—501. il.

Kisielow Tichon, Skuteczność działania zależy od ludzi (Białoruś), korespondencja ze Związku Rądzieckiego, tł., *Trybuna Ludu* 1982, nr 50, s. 7.

Kmietowicz Anna, Nieznany skarb dirhemów arabskich z X w. z terenu Białorusi, *Wiadomości Numizmatyczne* 1974, z. 1, s. 30—46, il. wykr., sum.

Knypl Mieczysław, Pociągiem po Związku Radzieckim, Z pierwszego postoju (Nauka i technika na Białorusi), *Przegląd Techniczny* 1979, nr 38, s. 30—31, il.

Kolberg Oskar, Dzieła wszystkie, T. 52. Białoruś — Podlasie, Wrocław — Poznań 1968.

Kolendo Maria, Tajne nauczanie w byłych powiatach wołkowyskim i grodzieńskim w latach okupacji hitlerowskiej (1941—1944), *Przegląd Historyczno-Oświatowy* R. 17, nr 3, s. 379—413, tab.

Kołas Jakub, Kołysanka w noc bezsenną (w), I stuk też może być symfonią (w), Tł. Tadeusz Chróścielewski, *Literatura na Świecie* 1982, nr 11, s. 8—10, il.

Kołas Jakub, A jak śpiewa dudka miła, Łódź 1982. Rec. Staniszewski Andrzej, *Kontrasty* 1983, nr 2, s. 41—43.

Kondratiuk Michał, Tendencje słowotwórcze w nazwach mieszkańców na pograniczu polsko-ukraińskim, *Studia z filologii polskiej i słowiańskiej* t. 8. 1969, s. 191—200, mapa.

Kondratiuk Michał, Termin rolniczy /zapaśka/ zap'ska// w mikrotoponimii Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim, *Slavia Orientalis* R. 29, 1980, nr 1—2, s. 137—141.

Kondratiuk Michał, Polsko-białoruskie związki leksykalne. *Acta Baltico-Slavica* t. 10, 1976, s. 303—312, mapa, rez.

Kondratiuk Michał, Nazwy miejscowe południowo-wschodniej Białostocczyzny. Wrocław, Ossolineum 1974, 304 s., 1 mapa, Komitet Słowianoznawstwa PAN, Monografie Slawistyczne, 29. Rec. Bańkowski A. „Onomastica" R. 22, 1977, s. 266—273; Buczyński M., *Slavia Orientalis* R. 28, 1976, z. 1, s. 105—106; Witkowski W. *Onomastica* R. 22, 1977, s. 273-277.

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Даваенная хата ў Старасельцах. Мал. Ул. Петрука.*

## СВЯТЫЯ ЖЫЛІ СЯРОД НАС

(Працяг са стар. 1)

яваў паўстанец у лапцях ды з касою ў руках супроць казацкіх сотняў і армейскіх палкоў? Так пытаць, а яшчэ і з сур'ёзным выглядам твару можна якраз з перспектывы паўтара стагоддзяў. Мы не памятаем і не ведаем, што адмена прыгону ў нас адбылася ўсё-такі на карысней-шых умовах, чым у непаўстаўшых вялікарускіх губернях. Вядома, не дзеля гэтага Кастусь Каліноўскі падымаў народ. Як народнік, ён рабіў стаўку на ўсеагульную сялянскую вайну, ад Волгі да Віслы, якая павінна была давесці да распаду самадзяржаўя і ўтварэння на яго руінах федэрацыі свабодных рэспублік (скажам і так: сялянскіх рэспублік). Падобныя войны, некаторыя з іх блізкія сваёй перамогі, пастаянна мелі месца ў мінулым. І настроі на пераломе пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў паказвалі на набліжэнне нечуванай дагэтуль рэпетыцыі: у 1859 годзе адбылося каля дзевяноста значных бунтаў, а праз год — аж сто дваццаць шэсць, за *„зямлю і волю"*.

Гісторыя вызначыла новым будаўніком свету не селяніна, а рабочага, дала рашаючы голас не земляробству, а фабрыкам, не вёсцы, а гораду. Аднак: не з'явіліся б фабрыкі тыя, калі б не стаў вольным мужык, а гарады набіраліся сілаў з вёсак. Так круцішча наш еўрапейскі свет са сваёй логікай прадукцыі і развіцця. Хто ж пры сваім розуме паставіць у віну Кастусю Каліноўскаму, што ён гэтага не бачыў? Як можна ўбачыць нешта, чаго няма? Пралетарыят — гэта песня будучыні (пасляпаўстанскай, пасляпаншчыннай). Справа Каліноўскага не выйграла, але і не прайграла. Кожная вялікая справа не мусіць узяць верх. Адначасна не знаходзім прыкладаў поўнага яе ўпадку: аказвае ўплыў на бег падзей, хоць і не кіруе імі. Разгромленае паўстанне ў Беларусі і Літве, ганебна павешаны яго дыктатар Кастусь Каліноўскі, тысячы зніштожаных праўдалюбцаў і змаганнікаў **не** за *„доўгі рубель"* сабе, а па-апостальску натхнёных ідэйнікаў, — у вечнай нашай памяці, значыць: і ва ўчынках нашых.

**Аляксандр Анташэвіч**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Вітаўта не знеахвоціла да працягвання вайны ні здабыццё аб'яднанымі сіламі Ягайлы і яго братоў Бярэсця, Камянца і Гародні, ні заняццё князем мазавецкім Янушам Дарагічына, Бельска, Суража і іншых гарадоў на Пабужжы і Панароўі. Якраз наадварот: гэты захоп Альгердавічамі і шваграм яго бацькаўшчыны яшчэ болей раз'юшыў запальчывага Кейстутавіча. Ён рашае любымі сродкамі і коштамі не толькі адваяваць свой удзел, але і апанаваць уладаннямі родзічаў. За дапамогай, вядома, звярнуўся да крыжакоў. Аднак тыя не падавалі выгляду, што яны зацікаўлены новым шэсцем на Вялікае княства і даліся перакапаць сябе толькі тады, калі Вітаўт „залажыў ім зямлю Жамойцкую за трыста тысяч залатых" — як паведамляе „Хроніка Быхаўца".

Звестка пра тое, што Вітаўт прадаў крыжакам палову свае бацькаўшчыны, каб за атрыманую аграмадную колькасць золата наладзіць новы крыжовы паход на ўсход і вызваліць другую палову айчыны з-пад улады „паганцаў ды адшчапенцаў", маланкава абляцела не толькі Ордэн, але і ўсю Заходнюю Еўропу. Такім чынам спрытнага Кейстутавіча — нядаўняга „адступніка ад праўдзівай веры Хрыстовай і агіднага злачынцу" — крыжацкія вяшчальнікі зноў аб'явілі вялікім змагаром за тую ж „праўдзівую веру Хрыстову". Што ж, крыжакі былі неперапераўзыдзенымі майстрамі прапаганды...

Аднак і яны не змаглі б навесці на заходнееўрапейскае рыцарства новай чмуты, калі б яе не абкурылі заманлівым пахам... золата, якім Вітаўт шчодра плаціў за ваенныя паслугі. І ў каторы ўжо раз з усяе Еўропы ў Ордэн сцяклося мноства рыцараў-бадзягаў, за тугі кашалёк золата і глыбокую чару віна гатовых на ўсё. Але не толькі яны ішлі за Вітаўтам: на баку Кейстутавіча былі беларускія праваслаўныя Полаччына, часова захопленыя Пабужжа і



Панароўе, змешаная беларуска-літоўская ды праваслаўна-язычаска-каталіцкая Аўкштота і... прададзеная ім жа крыжакам жмудская язычаская Жамойція. Як ні тлумачыць гэтую дзівосную з'яву, адно пэўнае: ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім, асабліва ж у яго заходняй частцы, Вітаўт карыстаўся аграмадным аўтарытэтам і папулярнасцю, яму як усеагульнаму любімцу выбачалася ўсё, нават здрада айчыны і адступніцтва ад веры продкаў. Нейкім незвычайным чуццём значная частка літоўскага і беларускага баярства згадвала ў асобе Вітаўта выдатнага дзяржаўнага дзеяча і схілялася на яго бок. І не памылялася...

Усю першую палову 1391 года ў Ордэне ішла інтэнсіўная падрыхтоўка да крыжовага паходу на Вялікае княства Літоўскае. У канцы верасня на чале з вялікім магістрам Канрадам Валенродам і князем Вітаўтам з Прусіі, Жмудзі і Лівоніі на Вільню рушыла 46-тысячная армія, узброеная „гарматамі і іншымі многімі прыстасаваннямі", як падае „Хроніка Быхаўца". Саюзнікі не толькі што не захоўвалі ў таямніцы гэтую кампанію, але вуснамі сваіх агентаў на Захадзе і Усходзе аб'явілі яе пераможным паходам, які прынясе канчатковую перамену хрысціянскага рыцарства над „паганцамі ды ерэтыкамі".

Перамогу святкавалі загадзёў. Калі незлічоныя харугвы захопнікаў сталі на мяжы Вялікага княства Літоўскага, военачальнікі далі ўдзельнікам паходу такі баль, якога дагэтуль не бачыла і не чула Еўропа, а вядома ж, што рыцары не былі аскетамі, любілі выпіць, з'есці і пазабаўляцца. І на стромкім беразе Нёмана, у засені залатых кронаў старадрэвін струменем палілося з дубовых анталак віно, з рожнаў зрэзваліся дымячыя сакавітыя кумпякі, а ў ядвабных шапірах ды проста ў навакольных зарасніках пад распаленымі рыцарамі застагналі і заенчылі нявольніцы і свежыя паланянкі.

Толькі праз некалькі дзён вялікаму магістру і яго падручным неяк удалося падняць у паход гуллівыя полчышчы. Недзе ў паўдарогі крыжацкія разведчыкі данеслі, што ўсё навакольле

(Працяг на стар. 6)

# ВУЧНЁЎСКАЯ СТАРОНКА

## „ДУБІНЫ" Ў ВАРШАВЕ

12 снежня 1987 г. у Варшаве ў студэнцкім клубе „Акцэнт" адбыўся агляд творчасці нацыянальных меншасцей. Быў запрошаны калектыў „Дубіны", песні якога можна пачуць у кожную нядзелю ў беларускай радыёперадачы.

Чытачы „Нівы" ведаюць, аднак, што існуе і калектыў „Дубіны II". Членамі гэтага калектыву з'яўляюцца вучні Гайнаўскага беларускага ліцэя. Яны таксама атрымалі запрашэнне на агляд. У суботу а 12⁰⁰ гадзіне аўтобусам Ваяводскага турыстычнага прадпрыемства яны адправіліся ў Варшаву.

Як кожнае студэнцкае мерапрыемства, так і гэтае пачалося са спазненнем. Першымі выступалі салісты. Прадстаўніком беларускіх студэнтаў быў выпускнік Гайнаўскага беларускага ліцэя Аляксандр Петручук, які цяпер з'яўляецца студэнтам нямецкай філалогіі. Публіка не падвяла, цэлы зал апладыраваў. Потым, як сказала Анна Кандрацюк, выступала „зорка беларускай эстрады" — „Дубіны". Салісткай гэтага калектыву з'яўляецца таксама выпускніца Гайнаўскага беларускага ліцэя Галіна Якімюк, якая цяпер з'яўляецца студэнткай пачатковага навучання ў Беластоку. У той час, калі „Дубіны" выконвалі вядомыя песні, публіка спявала разам з калектывам. У рэпертуары былі таксама і новыя песні, якія ўсім спадабаліся. Доказам гэтага былі бурныя воплескі. Найбольш усім спадабаліся песні ў выкананні прыгожых дзяўчат з Гайнаўскага беларускага ліцэя. У іх выкананні слухачы пачулі песні ў новай, цікавай апрацоўцы. Калі паляцелі гукі песні „Люблю наш край...", усе ўсталі.

„Дубіны II" былі вымушаны выканаць яшчэ адну песню на біс. Агляд закончыў хэйвіметалавы ансамбль. Калі пачаў ён іграць, частка слухачоў выйшла з залы і пайшла ў кавярню.

У мінулым годзе на аглядзе нацыянальных меншасцей украінцы адрэкамендаваліся найлепш. Думаю, што ў гэтым годзе мы, беларусы, былі лепш падрыхтаваны. Літоўцаў на аглядзе не было.

**Юрка Вапа**

## ЯШЧЭ АДНА ЦАГЛІНКА НА ПАБУДОВУ МУЗЕЯ

Усе мы ведаем, што ў Гайнаўцы паўстае Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху. Кожная залатоўка на рахунак пабудовы ўсё набліжае адкрыццё музея.

Гуртох БГКТ, які дзейнічае пры беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім высунуў прапанову, каб на бацькоўскім сходзе сабраць грошы на пабудову музея. У нядзелю, 22 лістапада 1987 г., у кожны клас, дзе былі бацькі, прыйшло па два члены БГКТ. Былі прададзены цаглінкі на суму 64800 зл. Найбольш грошай было сабрана ў класах: Ia, IIa, IVп. Нашы бацькі не пашкадавалі грошай на пабудову Музея. Усім ім шчырае беларускае дзякуй. Аднак не была гэта першая падтрымка пабудовы Музея з боку вучняў і настаўнікаў Бельскага ліцэя і, думаем, не апошняя. На рахунак пабудовы да 22 лістапада 1987 г. было ўнесена амаль сто тысяч злотых.

**Гуртох БГКТ у Бельскім беларускім ліцэі**

P.S. Ганарар таксама на музей.

## ЗАПУСТЫ Ў ГАЙНАЎЦЫ

27 лістапада 1987 года ў гайнаўскім старым парафіяльным доме адбыліся запусты. Запусты — гэта апошні дзень перад „піліпаўкай".

Калісьці нашы продкі ў гэты дзень паміналі нябожчыкаў. Уся сям'я ўставала вельмі рана, снедалі яшчэ да ўсходу сонца. Гаспадар запальваў свечку, ставілі на стале верцеху з куццёю. Уся сям'я малілася за памёршых. Потым гаспадар з гаспадыняй ішлі на могілкі і расстаўлялі на магілах родных місачкі з адлітай ядой. Пасля прыходу з могілак часам быў такі самы абед.

На нашых запустах быў Пётр Скепка з „Дубінамі II", яны далі нам невялікі канцэрт. Сустрэліся людзі з двух розных асяроддзяў: журналісты, улады гайнаўскай царквы, моладзь. Яны разам спявалі, танцавалі, смяяліся. Такія ўрачыстасці спалучаюць людзей і служаць нашай супольнай беларускай справе.

**Аліна Маліш**

## ЛЁНІК У ГАЙНАЎСКІМ БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ

Ужо на два тыдні перад сустрэчай у школе толькі і гаварылі аб прыездзе нашага выдатнага мастака Лёніка Тарасэвіча. Сустрэча мела адбыцца чацвёртага снежня.

Не ведаю, ці сярод чытачоў „Нівы" знойдзецца такі, хто не ведае Лёніка. Апрача таго, што ён робіць мастацкую кар'еру, у яго таксама ёсць іншыя зацікаўленні, між іншым, прырода. У Лёніка таксама вельмі цікавы падыход да людзей. Да нас у Гайнаўскі беларускі ліцэй прыехаў са сваім неадлучным сабакам Тобі.

З Бельска прыехалі нашы сябры з беларускага ліцэя, Сельскагаспадарчага тэхнікума і Механічнага ліцэя. Апрача вучняў, была з намі таксама настаўніца школы № 3 у Бельску-Падляшскім Марыля Базылюк. З такімі сябрамі вельмі прыемна праходзіў час. Лёнік паказваў нам свае карціны на дыяпазітывах. Многа расказваў аб тым, як яго карціны траплялі на розныя выстаўкі, напрыклад, у такія краіны, як Англія, ЗША, Швецыя, Італія, а таксама і ў гарады Польшчы. Пазнаёміліся мы з яго дарогамі да мастацтва. Расказваў нам таксама Лёнік, як ён вучыўся ў пачатковай і сярэдняй школах. „Бывала і так, што ўцякалі мы з урокаў, каб рабіць з сябрамі намнога прыемнейшыя рэчы, чым у школе на ўроках", — гаварыў Лёнік. Аказваецца, што і ў такіх слаўных ужо людзей, як Лёнік, мінулае бывае вельмі падобнае на нашае.

Многім удзельнікам сустрэчы не вельмі хацелася верыць, што такі чалавек гаворыць „па-свойму", гэта значыць, па-беларуску.

Я вельмі радуюся, калі думаю аб тым, што хлопец, які выводзіцца з нашага асяроддзя, здабыў сабе такую прыхільнасць людзей і спецыялістаў на радзіме і ў далёкіх закутках Еўропы і свету.

Мне здаецца, што такая форма знаёмства з вядомымі людзьмі дае ўсім многа задавальнення. Пасля такой сустрэчы мы сталі намнога багацейшымі.

Шкада толькі, што крыху замала вучняў прыйшло на гэтую сустрэчу, бо сапраўды, можна было на ёй вельмі прыемна, пры супольным спяванні песень, правесці час. Адным словам шкадуйце, хто не быў разам з намі!

Мы ў сваю чаргу вельмі просім Лёніка, каб калі толькі будзе ў яго свабодная хвіліна, яшчэ не раз наведаў нашу школу.

**Аня Аверчук**
**Фота Міраслава Варанецкага**







# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na Wasze pismo z dnia 14.12.1987 r. dotyczące publikacji prasowej „Piwaszniki zapaskudziać Michałowa" zamieszczonej w numerze z dnia 13.12. 1987 r., Zarząd Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska" w Michałowie nie może całkowicie zgodzić się z zarzutami postawionymi przez autora artykułu dotyczącymi obiektów Spółdzielni.

We wszystkich tych obiektach w roku 1987 przeprowadzono gruntowne prace remontowe polegające na całkowitym odnowieniu i wykonaniu wystroju wnętrz oraz elewacji zewnętrznej.

W celu poprawienia obsługi klientów zatrudniono w restauracji szatniarza, który odpowiedzialny jest za stan higieniczny pomieszczeń WC.

Bar znajdujący się w podparterowych pomieszczeniach restauracji jest typową pijalnią piwa odciążającą pomieszczenia konsumpcyjne od smakoszy tego trunku podawanego w kuflach.

Z treści artykułu wynika, że autor nie dość często korzysta z usług naszej gastronomii, ponieważ ze względu na „epidemię czerwonki" w województwie białostockim obowiązywał zakaz sprzedaży piwa w kuflach. W okresie od lipca do października 1987 bar nie prowadził działalności handlowej. Klienci baru mają możliwości korzystania z pomieszczeń WC, które to zostało wykonane w związku z przeprowadzonym remontem, a także z pomieszczeń WC restauracji.

Należy nadmienić, że placówki gastronomiczne systematycznie kontrolowane są przez Stację Sanitarno-Epidemiologiczną w Białymstoku i w roku 1987 zastrzeżeń co do działalności naszej gastronomii pod względem stanu sanitarnego nie wniesiono.

SDH w Michałowie decyzją Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku Wydział Handlu, na podstawie przeprowadzonej lustracji placówki i opinii społecznej komisji ds. oceny obiektów wzorcowych, otrzymał tytuł „Sklep Wzorcowy".

Przeniesienie sprzedaży piwa z centrum miasteczka nie jest możliwe, ponieważ sklep przy ulicy Sienkiewicza jest w remoncie i prace te planujemy zakończyć do I półrocza 1989 roku.

Sprzedaż piwa butelkowego na wynos odbywa się w Michałowie w sklepie spożywczym nr 1 i nr 2, na którą to Spółdzielnia posiada zezwolenie z Urzędu Wojewódzkiego. Naszym zdaniem te dwa punkty nie w pełni pokrywają zapotrzebowanie tutejszych mieszkańców, a w innych punktach sprzedaży takowego zezwolenia nie uzyskaliśmy.

Że względu na odbywające się prace drogowe związane z asfaltowaniem drogi i ułożeniem chodników, Zarząd Spółdzielni temat zagospodarowania placów przy swoich obiektach tj. restauracji i SDH podejmie wiosną 1988 roku.

W obecnej chwili przy tych obiektach rosną lipy i wierzby.

Prezes Zarządu
GS „SCh" Michałowo
**E. Matejczuk**



Народны ансамбль песні і танца „Нёман" з Гродна вясною мінулага года выступіў у Беластоку.
Фота С. Грышявіцкага.




Яшчэ не зваліся ў нашым народзе шчырыя беларусы. Калі сустрэнуся я з такім, то аж нейкая саладосць расплываецца на ўсёй душы. Такі чалавек, напрыклад, Міхал Кірылюк з Дубічаў-Царкоўных, з якім я разам хадзіў у школу, а цяпер жыве ў Бельску, ён — першакласны шафёр. Даводзіцца быць шмат у дарозе, праездзіў узад ды ўпоперак усю Польшчу. Веданне людзей у свеце, вядома, спрыяе патрыятызму, бо тады больш заўважаеш і цэніш усенька добрае ў сваім народзе. „Ніва" ў Міхала Кірылюка заўсёды на стале, ён з ёю часам і ў далёкую дарогу выязджае...

Яго бацька, Іван Кірылюк, жыве ў Дубічах нашых, і сын часта бывае ў яго. Іван рабіў лістаношам на дубіцкай пошце, каля трыццаці гадоў прарабіў на службе, цяпер ён ужо на пенсіі. Быў заўзятым прапагандыстам „Нівы" і гэтага, відаць, набраўся і я ад яго... У Кірылюкоў, у бацькі і сына, усё беларускае на першым месцы: мова, звычаі, традыцыі, гісторыя. На службе і дома, усюды, дзе б не былі, яны застаюцца беларусамі. Таму і ўмеюць шанаваць іншыя народы і мовы, бо хто свайго не шануе, той і чужога не ацэніць па-людску. У нас, калі хто перастае быць беларусам, то вядома адразу, што для карысці ён такім стаў, з-за эгаізму і для жыццёвай выгоды. Такія людзі — цынікі і камбінатары, з імі мы не пабудуем лепшай будучыні, бо іхныя рукі ўсё заграбаюць сабе. Беларуская справа — не выдумка, не фанабэрыя, гэта справа маральнага здароўя нашага чалавека.

## НЕ ЗВЯЛІСЯ ШЧЫРЫЯ БЕЛАРУСЫ

Міхал добра ведае Юрку Зюзю, нашага земляка і высокага афіцэра арміі, які пражывае ў Варшаве. Юрка, як і Міхал, цудоўны чалавек, сын бацькаўшчыны, а не адшчапенец, як гэта з іншымі сталася ў хуткую кар'еру. З ім разам служыць і Лёнік Грыгарук, гэтак жа шчыры беларус.

Калі я думаю пра іх, сеўшы ў ціхую нядзельку ў сваёй хаце, то неяк лягчэй ад таго на сэрцы маім: не звяліся шчырыя беларусы, і не адны мае знаёмыя застаюцца імі. Такіх, як яны, ёсць больш.

Не прападзем!

**Мікалай Панфілюк**




(Працяг са стар. 4)

Вільні на адлегласць пяці міляў Скіргайлавы войскі датла вычысцілі ды выпалілі, не пакінуўшы ні людзіны і ні саломіны, а самі заселі ў адноўленых і ўзмоцненых крэпасцях. Гэта моцна ўстрывожыла Валенрода і іншых крыжацкіх военачальнікаў, бо чым жа ж падчас аблогі Вільні пракарміць такую аграмадную армію? На дадатак з Мальбарка адмысловыя ганцы прымчалі звестку, што „незлічоныя харугвы" караля Ягайлы ўдарылі на ўладанні Ордэна. Фактычна, пад канец верасня 1391 г. значная сіла пасольскага рыцарства на чале з сандамірскім кашталянам Крыстынам намагалася вярнуць Польшчы важны замак Златорыю на Куявах, бяспраўна прададзеную крыжакам колішнім паплечнікам караля венгерскага Людовіка, князем шлёнскім Уладзіславам Апольчыкам.

Аднаго і другога хапіла, каб вялікі магістр, загадаўшы пабудаваць некалькі невялікіх крэпасцяў паабапал Нёмана і перадаўшы іх пад апеку Вітаўта, сам з асноўнымі крыжацкімі сіламі рашыў павярнуць у Прусію на паратунак сталіцы, якая быццам бы апынулася ў небяспецы, як тлумачылі яго прыхільнікі правал усяго гэтага гучнага паходу на Вялікае княства Літоўскае.

Вітаўт жа, мабыць, усімі сіламі намагаўся пераканаць Валенрода не спыняць наступ на Вялікае княства. Аднак, калі яго благанні і маленні не ўзрушылі крыжака, ён на чале падлеглых яму жмудскіх, полацкіх і наёмных нямецкіх харугваў рушыў на Вільню. І тут варта прыгадаць надта ж жывы абразок з „Хронікі Быхаўца" пра здабыванне Вітаўтам Вільні.

„І князь вялікі Скіргайла, пачуўшы пра ідучага з войскамі вялікага князя Вітаўта, сабраў сілу сваю вялікую літоўскую і рускую ды пайшоў насупраць Вітаўта. Стаў Скіргайла, перайшоўшы раку Вілію і апалчыўшыся, на полі на Шэшкінах (сёння гэтая мясціна ўжо знаходзіцца ў межах Вільні — М. Г.). Вітаўт з нямецкімі сіламі, абозам і гарматамі, пайшоў з гары на Скіргайлу. І пачалі немцы біць з гармат па войску Скіргайлавым і многа ў войску Скіргайлавым пабілі. Не вытрымалі Скіргайлавы войскі стральбы нямецкіх гарматаў і сталі разбягацца. Вітаўтавы войскі пагналіся за імі ды білі іх і вялікае мноства іх перабілі, а іншыя самі ў рацэ Віліі патапіліся.

Скіргайла самотна пераплыў раку і ўцёк на Крывы горад. Вітаўт акружыў яго там. Крывы горад быў драўляны. Немцы раілі Вітаўту, каб з гармат не страляў па ім, бо гэтым ён

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЁЛКА Ў РЫБАЛАХ

Не такая, як штогод, была сёлета ёлка ў Рыбалах 7 студзеня — у першы дзень Каляд. Ёлка была арганізавана для дзяцей усяго Рыбалаўскага прыхода настаяцелем царквы Рыгорам Сасной пры дапамозе вясковага дома культуры і пры выдатнай падтрымцы ўсіх бацькоў. Уключыўся з калядкамі і слаўны вакальны калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы". Яны запрасілі таксама Дзеда Мароза, які сапраўды прыехаў, гуляў з дзецьмі і раздаваў падарункі.

У вялікай святочнай паэтычна-песеннай праграме прынялі ўдзел амаль усе дзеці. Больш дзвюх гадзін 80 дзяўчатак і хлопчыкаў усіх узростаў і ўсіх класаў дэкламавалі вершы, спявалі калядкі. Шмат было рускіх і беларускіх вершаў, былі і жарты з „Нівы". Старэйшыя дзеці ў сатырычных тэкстах высмейвалі розныя дрэнныя праявы нашага жыцця. Людзі смяяліся з сябе, са сваіх уласных недахопаў. А смех — гэта ж найлепшае лякарства на ўсе хваробы.

Увесь рэпертуар падрыхтавалі з дзецьмі бацькі. Дэкламавалі дзеці адважна, упэўнена. Многія добра валодаюць і рускай, і беларускай мовамі. А веданне моваў заўсёды сведчыць аб культурнасці чалавека.

Я вельмі цешуся, што вучні з Рыбалаў, Паўлаў, Война і Канюкоў стараюцца вывучаць беларускую мову і літаратуру і рускую мову і літаратуру. Ды не толькі школьнікі. Трохгадовы Крысь Мартынюк, зусім не баючыся барадатага Дзеда Мароза, бадзёра прадэкламаваў, да яго задзёршы галоўку: „Дзед Мароз, чырвоны нос, дзецям ёлачку прынёс", а двухгадовая Каця Сасна, зусім па-жаночаму, з усмешкай папалавала Дзеда за падарунак. Той узрушыўся, але з-за бароды, густых броваў і вусоў не відаць было слязы, якая наплыла на старыя вочы, — слязы радасці за дзетак, якія сказалі яму ў гэты мірны святочны дзень столькі прыемных, ласкавых слоў. (вв)



## Я, ТАТА І САБАЧКА

Завуць мяне Ілёнка. Бачыце мяне на гэтым здымку. Калі да нас прыехаў рэдактар з Беластока, з „Нівы", дык мы сфатаграфаваліся разам з татам і нашым сабачкам. Шкада толькі, што мамы разам з намі не было. Яна тады кароў даіла. У мяне ёсць яшчэ брацік Каміль, але ён маленькі, і сядзеў з бабуляй у хаце.

Тата ў мяне вельмі добры. Мама — таксама. У таты надта ж многа работы, бо ён гаспадар. Рэдактар з „Нівы" казаў, што напіша пра нашых бацькоў. А я хацела б, каб і пра нашага сабачку не забыўся. Наш сабачка чорненькі, як жучок. Ён сцеражэ наш панадворак і бегае з намі, калі тата з мамай і з бабуляй едуць у поле. У нас на падворку многа-многа вялікіх машын. Ёсць „Паланэз", тры трактары і чырвоны камбайн, а ў хлеўні — многа беленькіх парсючкоў. Я іх не баюся. Толькі рыжаваты кнур страшнаваты. А з Жучком мы найлепшыя сябры. Усюды бегаем разам.

Тата кажа, што хутка мы пяройдзем жыць вось у гэты новы дом. Там столькі пакояў і пакойчыкаў, што можна гуляць у хованкі. Добра жывецца ў Баброўніках. Асабліва летам. Прыязджайце да нас.

*Размову запісаў і фатаграфаваў* **Віктар Рудчык**

**Максім Лужанін**

## СНЕГ

Вось заладзілі дажджы,
Сеў і з хаты не бяжы.

Толькі вечарам учора
Падмярзаць стаў панадворак,

Хмары некуды сплылі,
Зоры ў небе зацвілі...

А пасля ўсхадзіўся вецер,
Выў у коміне ўвесь вечар.

Так я з гэтым і заснуў,
А на ранне, як зірнуў, —
Вось, здаецца б, і пабег:
Белы,
Белы,
Белы
Снег.

Ветру нудна не было,
Накруціла, намяло:

А далёка,
А глыбока,
А высока,
Аж да вокан!
І на полі,
І на голлі,
Дзе ні станеш, —
А-я-яй! Які сняжок:
Што ні ступіш,
дык слядок!

**Алег Лойка**

## СПРЫТНЫ ЎНУЧАК

Спрытны ўнучак, як каўбой,
Ледзь прачнецца раніцой,
Аб'яўляе цацкам бой, —
Усе нішчыць — да адной.
„А-я-яй! — дзед Аяяй
Упічувае. — Не чапай!"
Ну, а бабка Оёёй:
„О-ё-ёй! — крычыць.
— Пастой!.."

Спрытны ўнучак, як каўбой,
Кажа ёй: „Сама пастой,
Я ж прылягу, адпачну —
Цацкі зноў ламаць пачну".
Просіць дзедка Аяяй:
„Дарагі, не пачынай!"
Ну, а бабка Оёёй:
„О-ё-ёй! — крычыць.
— Пастой!.."

„Я магу і пастаяць.
А хто ж будзе іх ламаць?"
„Я! — сказаў дзед Аяяй. —
Ану, коніка давай,
Верталёт давай і лук!.."
„Не чапай! — азваўся ўнук,
Лямантуе ўнук: — Пастой!
Цацкам-мір! Закончым бой!"

**Мар'ян Дукса**

## НІ ТАК ЧЫТАЛА?

Так чытала,
так гартала,
аж пакуль цямнець не стала.
З кніжкай ела,
з кніжкай спала,
з кніжкай бегала нямала.
З ёю ў сад хадзіла я,
з ёй была ля ручая,
з ёй сядзела рана-рана
ля блакітнага экрана.
Нават
кнігі не закрыла.
Так вучыла,
так гартала —
толькі тройку атрымала.
Можа,
Я не так чытала?

**Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар дзіцячага часопіса „Вясёлка", вядомы беларускі пісьменнік, які напісаў ужо шмат кніжак для дзяцей і моладзі, прыслаў у „Зорку" рукапіс новай кніжачкі для дзяцей. „Дасылаю на суд „Зоркі" і яе чытачоў рукапіс сваёй кнігі, — піша пісьменнік. — Пісаў яе для самых маленькіх, якія будуць вывучаць азбуку. Каб убачылі, якая багатая беларуская мова, каб навучыліся гуляць у словы, адчуваць іх змест, распазнаваць гукі".**

**Уводзіць дзяцей у казку-забаўлянку герой часопіса „Вясёлка" Вася Вясёлкін, вялікі памочнік аўтара кнігі і рэдактара часопіса. Кніжачку будзем друкаваць у адрэзках. „Зорка" мае надзею, што казка паможа дзецям глыбей зразумець сэнс многіх нашых звычайных слоў, лепш пачуць смак нашай сакавітай, багатай мовы.**

**Уладзімір Ліпскі**




**Казка-забаўлянка**

Вася Вясёлкін прынёс у прадшколле вясёлую азбуку. Літары з магнітамі мацаваліся да прыгожай дошкі, як шашкі.

— Як з азбукай гуляць-забаўляцца? — спыталі дзеці.

— А во як, — таямніча падміргнуў Вася Вясёлкін.

Ён паздымаў з дошкі літары, перабытаў іх, прапанаваў:

— Цяпер, сябры, давайце шукаць патрэбныя літары. Парадак трэба захоўваць такі, як у азбуцы.

— Давайце, давайце, — згадзіліся дзеці.

— Літары будзем не толькі адшукваць, а прыдумляць пра іх вясёлыя гісторыі, — сказаў Вася Вясёлкін.

— Добра, добра, — дружна адгукнуліся дзеці.

— Але ў нашай забаўлянцы ёсць яшчэ адна ўмова, — сур'ёзна папярэдзіў Вася Вясёлкін.

— Якая?

— Амаль у кожным слове павінна адгукнуцца тая літара, пра якую будзем прыдумляць. Згода?

(Працяг на стар. 10)

З Салаухіна

## „ЗАБЫЛІ" КНІГІ

У час заграпічных паездак узнікае заўсёды адзін непрыемны момант. У любым месцы, дзе была запратакалавана сустрэча і дзе яна адбылася, дараць кнігі. Яны на чужой мове, гэта значыць ніколі яны не будуць табою прачытаны. Яны цяжкія як цэглы. Іх накопліваецца ўсё больш. Іх трэба валачыць за сабою (апрача сваіх рэчаў) з места на места. Потым іх трэба самалётам везці ў Маскву. Кожны кілаграм лішку трэба аплачваць. Ды і тут яшчэ дзесяць дзён, пяць гарадоў, гэта значыць пяць гасцініц, вось цягай іх усюды, усведамляючы ўсю іх для цябе бескарыснасць і непатрэбнасць.

Так вось ехалі мы з адным маім сябрам у цягніку з аднаго канца Англіі на другі. У адным горадзе нас праводзілі і пасадзілі, у другім горадзе — сустрэнуць. А пакуль што мы едзем самастойна і, дарэчы, адны ў пустым вагоне. У кожнага з нас па важкім чамадане, па не менш важкім партфелі і па тры торбы з накапіўшыміся кнігамі-цэглямі. Як добра было б без іх: у адной руцэ — чамадан, у другой руцэ — партфель. Хараство!

— Ведаеш што, — прапанаваў я свайму спадарожніку, — давай „забудзем" торбы ў вагоне. На чорта яны нам патрэбны? А хто знойдзе, будзе рады. Ён жа чытае па-англійску. Кнігі дарагія, падарункавыя, для яго гэта будзе знаходка.

Аперацыя наша прайшла паспяхова. Мы выйшлі з цягніка, можна сказаць, улёгцы. Уладкавалі нас у гасцініцу. Пагулялі мы па горадзе, а вечарам, вярнуўшыся ў свой нумар, выявілі ў цэласці і захаванасці нашы торбы з кнігамі.

Сарамліва спачатку было, але потым прайшло.



— Вы што, непісьменны?
— Не, проста вырашыў на гэтым крыж паставіць: больш не буду жаніцца.

# НІЎКА



### ДАПАМОЖНІК

Фінансіст знаёміць з работай новага служачага:

— Даручаю вам касу і спадзяюся, што вы будзеце працаваць прылежна. Калі ўзнікнуць якія-небудзь пытанні, вазьміце ў шуфлядзе крымінальны кодэкс.

### АСВЕДЧАННЕ

— Ты мяне кахаеш?
— Вельмі.
— А ажэнішся?
— Не разумею, чаму ты так хутка пераскакваеш з адной тэмы на другую?..

### ТРАПНЫ АДКАЗ

Пяцігадовы хлопчык адказвае па тэлефону:

— Мамы няма дома!

Потым, паглядзеўшы на бацьку, дадае:

— Але тут ёсць яе намеснік...

### НЯПРАЎДА

Сустрэліся два задрыпанцы.

— Ты, Сцяпан, на памяць не скардзішся? — пытае адзін.

— У мяне памяць фенаменальная. А што?

— Мінулай вясной ты пазычыў у мяне тысячу, а вярнуць забыўся.

— Няпраўда! — разгневаўся Сцяпан.

— Няпраўда, што пазычыў?

— Няпраўда, што забыў.





Дык ён вас прадасць! Але папшайцеся, што прадасць нятаніа.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Гаспадар рэстарана звяртаецца да афіцыянта:

— Ці не скардзіўся той новы наведвальнік, што яму ў каву не далілі малака?

— Не, гэта вельмі ціхі чалавек?

— Тады заўтра не сыпце гэтаму сеньёру і цукар!

*

Шатландзец гаворыць жонцы:

— З таго часу, як мы сталі даваць нашаму Артуру за добрую адзнаку пені, ён прыносіць дамоў адны пяцёркі!

— Падобна, што ён дзеліць выручку з настаўнікам...

*

Адзін праходжы знайшоў на вуліцы стадаларовую купюру. Другі яго аклікнуў:

— Гэй! Пачакайце! Аддайце мне грошы. Гэта я іх згубіў.

— А чым вы дакажаце?

— Паглядзіце самі, у мяне ўсе кішэні пустыя.

### ЗДАВОЛІЎСЯ

Пан Задрыпкоўскі вырашыў прайсці курс плавання. Праз паўгадзіны ён вылез з басейна і пайшоў апранацца.

— Куды вы? — закрычаў услед яму трэнер. — Гадзіна яшчэ не прайшла!

— Магчыма, — адказаў пан Задрыпкоўскі, — але я ўжо не магу больш піць...

### ДАБРУ НЕ ПРАПАДАЦЬ

— Вось дурная: купіла цэлы кілаграм каўбасы, а яна нясмачная.

— І жто ш ты яе — выкінула?

— Дзе там! Мужу аддала: ён на адкрыццё сезона палявання пайшоў.

З „Веснікa Задрыпоніі"

### УСЁ ЦЯЧЭ, УСЁ МЯНЯЕЦЦА

На першых жа лекцыях слухачам курсаў павышэння кваліфікацыі паведамілі аб неабходнасці забыць старыя метады разліку з прычыны ўводу новых. Інжынер А. Канапаты аказаўся ў самым выгадным становішчы: ён не ведаў старых метадаў, і, умудроны такім вопытам, не спяшаўся вывучаць новыя.



### МАРОЗ

— Мяне баяцца ўсе да слёз!
І ганаруся тым бясконца, —
Хваліўся раніцай мароз,
Пакуль... не выглянула сонца.

Віктар Трусевіч

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ







Устаўце лік, якога не хапае.

# КУРЁЗЫ

### КОЛЬКІ СЕКУНД ЗАСТАЛОСЯ ДА 2000 ГОДА?

На будынку парыжскага „Цэнтра Пампіду" (адкрытага некалькі гадоў назад буйнога культурнага цэнтра) устаноўлен электронны гадзіннік, які адлічвае секунды, якія засталіся да 2000 года. Індыкатар пакажа нуль у поўнач 31 снежня 1999 года. Ідэя арыгінальная, але стваральнікі гадзінніка чамусьці пераканаьы (магія круглай даты!), што з пачаткам 2000 года пачнецца новае стагоддзе і новае тысячагоддзе, а між тым гэта не так: год 2000 адносіцца яшчэ да XX стагоддзя, а наступны, XXI век пачнецца толькі ў ноч з 31 снежня 2000 года на 1 студзеня 2001 года.

### ВАЛЬТЭР

Аднойчы дробны злодзей залез у кішэню Вальтэра. Пісьменнік схапіў яго за руку:

— Што табе патрэбна?

— Тое, што ў кішэні.

Вальтэр выняў з кішэні паперыну з напісанымі вершамі.

— Вазьмі, бачу я, што ты любіш паэзію. Але, калі ласка, адмоўся ад гэтай дурной звычкі. Вазьміся лепш за такое рамяство, якое было б лягчэй для тваёй галавы.




Усміхацца на пахаванні да твару толькі нябожчыку.